ГАЗЕТА ВЫСТУПИЛА. НАМ ОТВЕТИЛИ.

## «ОБЕЩАННОГО... 50 ЛЕТ ЖДАТЬ»

Управление землепользования и землеустройства Мингорисполкома совместно с Московским райисполкомом рассмотрело статьи «На, Боже, что негоже...», «Гэта ж проста здзек» и «Обещанного... 50 лет ждать, или Как в этом году горожане обеспечиваются дачными участками», опубликованные в газете «Добры вечар».

В настоящее время в Минске сложилась очень напряженная обстановка с обеспечением земельными участками жителей города для коллективного садоводства. По информации райисполкомов, от жителей города поступило 86 тысяч заявлений, в том числе из Московского района — 5377. Для обеспечения потребности в земельных участках требуется 9,5 тысячи га, в том числе для жителей Московского района — 500 га.

Если для своих работников предприятия, организации и учреждения с трудом, но решают вопросы выделения земельных участков по шефским связям или на основе бартера, то гораздо сложнее обеспечить инвалидов и ветеранов войны, участников ликвидации последствий аварии на ЧАЭС, переселенцев из чернобыльской зоны отселения, неработающих пенсионеров и других граждан, относящихся к льготной категории. От них поступило 7,7 тысячи заявлений, в том числе в Московском районе — 1300.

Во исполнение Постановления Совета Министров Республики Беларусь № 491 от 1.07.1994 года, на которое ссылается автор статьи, Минский облисполком для жителей Минска под коллективное садоводство предложил горисполкому 855 га. Обследование с выездом в хозяйства показало, что большинство участков находится на расстоянии 65-80 км от Минска и расположено в Узденском, Воложинском и Червенском районах. Ни один из участков не связан железнодорожным транспортом с Минском. Из предложенных 855 га жители города смогут получить не более четверти площадей (примерно 218 га), на отчуждение которых получено согласие хозяйств. Это составляет 2,3% от потребности горожан. Эти участки распределены между столичными райисполкомами для дальнейшего оформления материалов на предоставление земель в установленном порядке.

Для жителей Московского района согласовано выделение 14 га (колхоз «Ильича» Узденского района), что составляет 2,8% от потребности.

Исполком Минского городского Совета депутатов 31 октября 1994 года обратился в Минский облисполком с просьбой оказать содействие в обеспечении жителей г.Минска земельными участками для коллективного садоводства.

**Т.ШИБЕКО,**
**начальник управления землепользования и землеустройства горисполкома.**

ОТ ОТДЕЛА ГОРОДСКОГО ХОЗЯЙСТВА.

**Как видно из реагирования, обращение горисполкома в Минский облисполком с просьбой оказать содействие в обеспечении минчан дачными участками (датированное 31 октября 1994 года) пока остается без ответа. Нет ответа и на высланную редакцией в его адрес для реагирования статью «Обещанного... 50 лет ждать». Что ж, мы обещаем читателям в ближайшее время побывать в облисполкоме и рассказать, что там предпринимают для решения актуальной для горожан проблемы.**

ОФИЦИАЛЬНЫЙ ОТДЕЛ

КАБИНЕТ МИНИСТРОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПОСТАНОВЛЕНИЕ № 17/1

## «О БЕСПРЕПЯТСТВЕННОМ ПЕРЕВОДЕ ЮРИДИЧЕСКИМИ И ФИЗИЧЕСКИМИ ЛИЦАМИ БЕЗНАЛИЧНЫХ РУБЛЕВЫХ ДЕПОЗИТОВ В НАЛИЧНЫЕ РУБЛИ»

В целях развития полноценного денежного рынка республики и в соответствии с меморандумом об экономической политике правительства Республики Беларусь в 1994-1995 гг. Кабинет министров Республики Беларусь и Национальный банк Республики Беларусь ПОСТАНОВЛЯЮТ:

1. Установить, что с 1 января 1995 года осуществляется беспрепятственный перевод юридическими и физическими лицами безналичных рублевых депозитов в наличные рубли и наличных рублей в безналичные рублевые депозиты.

Безналичное зачисление средств в депозиты физических лиц производится в порядке, предусмотренном постановлением Кабинета министров Республики Беларусь и Национального банка Республики Беларусь от 13 ноября 1994 года № 178/12 «Об упорядочении операций по вкладным счетам граждан и лиц, занимающихся предпринимательской деятельностью» (собрание Указов президента и постановление Кабинета Министров Республики Беларусь 1994 г. № 11, стр. 277).

2. Не подтвержденные соответствующими документами финансовые операции, совершаемые в наличной форме физическими лицами, осуществляющими предпринимательскую деятельность без образования юридического лица, не учитываются в составе расходов, связанных с извлечением доходов, и подлежат налогообложению в порядке, установленном законом Республики Беларусь о подоходном налоге с граждан.

3. Рекомендовать руководителям:

3.1. Предприятиям торговли и сферы услуг независимо от ведомственной подчиненности и форм собственности расширять практику применения расчетов на потребительском рынке за товары и услуги по разовым расчетным чекам, чекам из банковских чековых книжек и другим формам наличных расчетов;

3.2. Коммерческим банкам — активизировать проведение работ по созданию и внедрению единой межбанковской системы безналичных расчетов на основе пластиковых карточек, включая расчеты на потребительском рынке.

4. Признать утратившим силу постановление Совета Министров Республики Беларусь и Национального банка Республики Беларусь от 5 марта 1993 г. № 133/10 «О дополнительных мерах по упорядочению наличного денежного оборота в Республике Беларусь» (СП Республики Беларусь, 1993 г. № 7, стр. 118, № 34, стр. 657).

**Премьер-министр Республики Беларусь М.ЧИГИРЬ**
**Председатель Правления Национального банка Республики Беларусь С.БОГДАНКЕВИЧ.**

## ДОЛАРЫ ДЛЯ МІНІСТЭРСТВАЎ

Кабінет міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб рэалізацыі рашэння валютна-крэдытнай камісіі Кабінета міністраў ад 30 лістапада 1994 г.».

Урад згадзіўся з прапановай валютна-крэдытнай камісіі аб выдзяленні з валютнага рахунку Міністэрства фінансаў міністэрствам і іншым цэнтральным органам кіравання сродкаў з пакрыццём імі валютнага эквіваленту. Для ажыццяўлення гэтых валютных плацяжоў Мінфіну даручана дадаткова набыць за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту 17 мільёнаў долараў ЗША.

Сярод тых, каму выдаткоўваюцца сродкі з валютнага рахунку Мінфіна, — міністэрствы замежных спраў, сувязі, знешніх эканамічных сувязей, аховы здароўя, фінансаў, сакратарыят Вярхоўнага Савета. Гэтыя грошы будуць выкарыстаны на выплату ўзносаў у міжнародныя арганізацыі, пагашэнне запазычанасцяў, утрыманне замежных устаноў, аплату абсталявання для тэлефонных станцый, што абслугоўваюць Вярхоўны Савет і Кабінет міністраў, набыццё аргтэхнікі сакратарыятам парламента, закупку медыцынскага абсталявання.

**Ян КАПЫЛЬСКІ, БелаПАН.**

ЭКАНОМІКА І СПРАВЫ

## ПРАМЫСЛОЎЦЫ ГЛЯДЗЯЦЬ НА ЎСХОД

Беларускія прамыслоўцы падтрымліваюць пагадненні па паглыбленню эканамічнай інтэграцыі, падпісаныя паміж урадамі Беларусі і Расійскай Федэрацыі 6 студзеня.

Аб гэтым гаворыцца ў рэзалюцыі Прэзідыума Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі.

Прэзідэнт БНПА Міхаіл Лаўрыновіч адзначыў, што беларускія прамыслоўцы праяўляюць настойлівае імкненне да захавання і паглыблення эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, паколькі, атрымаўшы палітычны суверэнітэт, «зборачны цэх» былога СССР па-ранейшаму эканамічна «прывязаны» да расійскіх крыніц сыравіны, паставак камплектуючых і рынкаў збыту. І іншай рэальнай альтэрнатывы, на думку М.Лаўрыновіча, у бліжэйшай будучыні ў рэспубліцы няма. Мы не гатовыя набываць энерганосьбіты на Захадзе, а Захад не гатовы адкрыць свае рынкі беларускім таварам.

Таму зняцце мытных бар'ераў, адмена пошлін і квот, устанаўленне парытэтнага з расійскімі спажыўцамі кошту на энерганосьбіты дазваляе нам захаваць Расію як рынак збыту, з якога нас у апошні час спрабуюць выцесніць.

На пасяджэнні Прэзідыума БНПА было вырашана, што выканаўчая дырэкцыя і функцыянальныя саветы асацыяцыі прымуць актыўны ўдзел у распрацоўцы і экспертызе заканадаўчых і нарматыўных актаў па рэалізацыі падпісаных пагадненняў, прадоўжаць работу з замежнымі кансультантамі для падрыхтоўкі спецыялістаў фінансава-прамысловых груп.

Прынята таксама рашэнне звярнуцца ў Вярхоўны Савет Беларусі з просьбай аб больш хуткай ратыфікацыі пагадненняў, а ў Кабінет міністраў — з прапановай аб стварэнні Міжведамаснай камісіі па фарміраванню акцыянерных кампаній і фінансава-прамысловых груп.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

ДИПЛОМАТИЯ

## НЕОБХОДИМА ЕДИНАЯ ЕВРОПЕЙСКАЯ СИСТЕМА БЕЗОПАСНОСТИ

Соединенные Штаты считают необходимым расширение НАТО «на восток», чтобы «продемонстрировать Центральной Европе, что нашей целью в будущем» является создание «единой европейской системы безопасности», заявил заместитель госсекретаря США по политическим вопросам Питер Тарнофф. Такая система обеспечит «расширение НАТО» в рамках программы «Партнерство во имя мира», инициатива принятия которой принадлежит США, и создаст условия, при которых Организация по безопасности и сотрудничеству в Европе (ОБСЕ) и Западноевропейский союз (ЗЕС) «возьмут на себя большую ответственность (в области безопасности)».

Тарнофф подчеркнул, что «лучшей поддержкой реформ» стало бы предоставление правительствам и народам стран Центральной Европы «возможности более полного участия в западных институтах».

**РИД — по сообщению ЮСИА.**

ТРАНСПОРТ





## ВСЕГДА ВЫХОДЯТ НА МАРШРУТЫ

**В прошлом году транспортом автобусного парка № 5 перевезено более 90 миллионов пассажиров. Водители автохозяйства обслуживают самые протяженные маршруты: 81, 60, 114, 40, 46, 73, которые связывают микрорайоны Юго-Запад, Запад, Малиновку, Сухарево, Веснянку, Масюковщину. Несмотря на то, что автопарк вот уже четыре года не получает новых машин, план выпуска автобусов на линию сохранится на уровне предыдущего года.**

**НА СНИМКАХ: директор автопарка № 5 Сергей Сергеевич Савицкий; диспетчер Анна Еркович выдает путевку водителю Сергею Глымбоцкому; передовые водители Владимир Морозов, Валерий Хацкевич, Виталий Рудницкий, Василий Сукач, Сергей Попов, Валерий Шестак, Василий Щинкевич, Виктор Карпук, Иван Дятко.**
**Фото Анатолия БАСОВА.**



ЭКАЛОГІЯ

## ЯК ЗАХАВАЦЬ ЗЯЛЁНЫ КОЛЕР?

У штаб-кватэры Беларускай экалагічнай партыі адбылася сустрэча кіраўніцтва з членам каардынацыйнага савета экалагічнай партыі Расіі Валянцінам Граковічам.

Экалогія, як вядома, не ведае межаў, і таму знайшлося нямала агульнага пры абмеркаванні накірункаў сумеснага супрацоўніцтва і абмену партыйным вопытам.

Экалагічная партыя Расіі, напрыклад, не баіцца «людзей з партфелямі», актыўна прыцягваючы да дзейнасці партыі міністра экалогіі, галоўнага санітарнага ўрача, іншых чыноўнікаў афіцыйных структур. Магчыма, таму расійская партыя не зведвае асаблівых фінансавых цяжкасцей, выдае сваю газету «Зеленый мир».

Нашы эколагі аб гэтым могуць пакуль толькі марыць. Прадстаўлены ў Вярхоўны Савет Беларусі праект Закона «Аб экалагічнай адукацыі» даўно чакае свайго разгляду. Дарэчы, па словах В.Граковіча, у Расіі падобнага закона няма, і законапраект беларускіх калег іх вельмі зацікавіў. Не выключана, што расійскія эколагі возьмуць яго на ўзбраенне пры распрацоўцы ўласнага дакумента.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

ДАСЯГНЕННІ

## НЕ КАНЦЭНТРАТ, А ПРОСТА «СУПЕР»!

У Сімферопальскім інстытуце мінеральных рэсурсаў завершаны даследаванні магнетытавых кварцытаў Акалаўскага радовішча, што ў Стаўбцоўскім раёне.

У выніку распрацавана схема магнітнага абагачэння руд і атрыманы суперканцэнтрат з утрыманнем жалеза 70,7 працэнта. Канцэнтрат прыдатны для прамога атрымання жалеза электраметалургічным спосабам, які прымяняецца, у прыватнасці, на Беларускім металургічным заводзе.

З поспехам трэба павіншаваць, у першую чаргу, вытворчае аб'яднанне «Беларусьгеалогія», спецыялісты якога разведалі Акалаўскае месцараджэнне.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

НОВЫЕ ТОВАРЫ



## УЧИМСЯ ХОЗЯЙСТВОВАТЬ

**Выпуск различных товаров народного потребления наладил Могилевский автомобильный завод имени Кирова. Среди них — и пользующиеся особым спросом изделия из натуральной древесины. Это набор мебели для прихожей, обеденный стол с табуретами, другие мелкие изделия. Для реализации товаров народного потребления открыты три магазина.**

**А недавно продукцией предприятия заинтересовались бизнесмены из Германии. Они заказали изготовление значительной партии столов для пивных баров. Выгодный контракт устроил обе стороны.**

**НА СНИМКАХ: новинка предприятия — набор мебели для прихожей. Ее демонстрирует инженер отдела снабжения Алла Сереброва; сборка столов для Германии. Их собирается около 600 комплектов в месяц.**
**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БЕЛИНФОРМ.**



НАУКА

# ЭФФЕКТ НАСЫЩЕНИЯ: НУЖЕН НОВЫЙ СМЫСЛ

**До абстрактных ли разговоров о будущем людям, озабоченным сиюминутными проблемами выживания? Но человеку зачем-то дано не только видеть, но и прогнозировать будущее.**

**— Что нас ждет впереди? — такой вопрос был задан доктору философских наук Эдуарду СОРОКО, ведущему научному сотруднику Института философии и права АН Беларуси.**

— По прогнозам многих видных ученых, новое тысячелетие принесет с собой и новую генеральную установку в решении экологических проблем. Выживание человечества — эта сверхзадача подчинит себе все, определив на долгие годы идейные приоритеты и направленность культуры, характер новых технологий, структуру производства, содержание духовных ценностей человечества. Перелом в человеческом мировоззрении ожидается на рубеже 2020-2025 годов, когда общество приобретет зримые контуры планетарного единства, достигнув максимума по народонаселению и пиковых характеристик в энергопотреблении. На шкале исторического времени возникнет точка раздвоения, содержащая две возможности: либо сосредоточение всех сил, всего интеллектуального потенциала людей, связанных единой сетью коммуникаций, на решение проблем обустройства своего будущего, либо «релаксационный сброс» демографического напряжения не достойными человека средствами — саморазрушением культуры и самоистреблением. Уже сейчас мир ждет от ООН, от правительств сверхдержав гарантий, что жуткая вторая альтернатива не реализуется. Но только на это уповать нельзя. Необходимо, чтобы объединенный разум человечества уже сегодня включился в ту гигантскую работу, которая должна стать делом каждого. Ведь человек лишь сам сможет завоевать достойное будущее.

**— Должно быть, науке при этом придется сильно измениться?**

— Наука как основа самопознания на рубеже тысячелетий уже меняет установку на решение новых задач, ведь нужно осуществить грандиозный проект социоприродного взаимодействия, включающего и уровень потребления человеком доли природного богатства, чтобы человеческая деятельность вписывалась в естественные обменные циклы, в круговорот вещества на Земле.

**— Поясните, пожалуйста...**

— Самое большее, к чему может стремиться ученый в своих исследованиях, — это не полнота, а целостность знания, создаваемых теорий, представлений и концепций. Человек приблизился к тому пределу сложности, когда все больше сказывается фундаментальное свойство мира — его целостность. Естественно, что и знанию, если оно претендует на адекватное отражение действительности, на роль руководства к действию, должно быть в не меньшей степени присуще то же свойство.

Целостность — не монолит, не формирование, схваченное «железной логикой», а единство многообразного. Наука же об ограниченном, необходимом, а тем более — оптимальном разнообразии, на роль которой претендовала, к примеру, кибернетика, до сих пор находится в эмбриональном состоянии. Здесь свои законы, которые еще не вполне осознаны и освоены, а некоторые еще не открыты, хотя уже и угадываются чуткими гносеологами.

В целостной системе всегда может быть выделено одно определяющее ее свойство, ее главная характеристика. У двигателя это мощность, у автопокрышек — пробег, у орудия — калибр. Это правило распространяется и на более сложные системы — на человека и общество в целом. Скажем, о состоянии культуры общества можно судить по тому, как себя чувствует в нем женщина, а о том, есть ли у общества будущее — по тому, как себя в нем чувствует ребенок. О состоянии же экономики можно судить по тому, как себя чувствует... домашний кот. Эта шутка однажды прозвучала с экрана телевизора, и в ней изрядная доля правды. Во времена Хрущева, Брежнева, Андропова и даже Горбачева коту все-таки можно было купить в магазине по сносной цене рыбешку. Теперь же, как правило, это невозможно.

Если же говорить серьезно, то главным показателем состояния экономики в современном цивилизованном мире является наука. Если она поднята на должную высоту, оснащена технически, обеспечена кадрами, инфраструктурой, ассигнованиями, — она дает обществу тот необходимый продукт, который способен открыть производству дверь в будущее. Но при одном условии: производство должно развиваться на принципах самоорганизации, обладая достаточной свободой. Производство, как птица, способно создавать чудные песни, но только будучи не в клетке, даже и золотой. Свободное развитие материального и духовного производства — первое необходимое условие развития человека во всем многообразии его социальных качеств, а значит, и развития науки.

**— Сейчас мы, естественно, замкнуты на свои внутренние проблемы, связанные с жестоким кризисом, и нам не до «большого мира». И все-таки: что происходит в нем, с точки зрения философа?**

— Для современного мира характерно ускорение интеграционистских тенденций. Отмежевывание, формирование суверенитетов имеет локальный характер и должно рассматриваться не более как «малое шевеление», подгонка этносов и национальных тел к системе мирового сообщества, тогда как интеграционизм глобален. Это кардинально меняет содержание технологической, экономической, демографической, экологической, военной политики государств, направленность развития культуры и, конечно же, науку и научные институты. Интеграционизм ныне есть та «мелодия современности» или, точнее, та «струя», попадание в которую означает прогресс, выпадение из нее — задворки цивилизации.

**— И как эта «мелодия» звучит в науке?**

— Как призыв сделать поворот от дифференцированности знания, разграниченного заборами специальных языков и узкопрофессиональных амбиций. Дифференциация знания, ведущая свое начало от Фрэнсиса Бэкона и Ампера, характерна для классического периода развития науки. Универсальная десятичная классификация (УДК), долгое время считавшаяся незыблемой основой застройки науки, ныне зашла в тупик, и наука пребывает в глубоком застое. Какую область естествознания ни возьми, в ней в той или иной степени заметен «эффект насыщения» — по числу совершаемых открытий, по обьему прироста нового. Многие традиционные науки почти исчерпали свой ресурс и приближаются к пределу своих возможностей, погружению в добывание малозначительных деталей, не влияющих существенно на картину в целом.

Для постклассического периода в развитии науки, в который мы уже вступили, характерна целостность. Это значит, что от преимущественно аналитического освоения действительности человек переходит к восприятию мира как целого. Синтез с необходимостью требует «наведения мостов» между отдельными, уже сформированными ветвями знания, выработки межнаучных средств общения. Не отвергать достигнутое, накопленное культурой мышления предыдущих времен, а интегрировать его, находя в нем новый смысл и новый тип законов миропорядка. Таково веление времени.

**— Критерии оценки творчества в новой, «синтетической» науке станут серьезнее?**

— Несомненно. Ведь путь к творчеству — единственному источнику вечного и нетленного — станет труднее. Именно благодаря творчеству — в науке, искусстве — идет прогресс в материальной и духовной сферах. Потому количество и качество новых идей, которыми располагает общество в данный момент, есть подлинное богатство, более того, критерий, определяющий меру прогресса. Утверждают, что при реорганизации экономики республики нужно ориентироваться не на те производства, которые требуют колоссальной энергии, а на те технологии, которые требуют колоссального ума. Только от количества и качества вложенного в общественное производство интеллекта зависит рост материальных и духовных благ в возрождающемся социальном организме республики.

**— Итак, к интеграции, синтезу без страха и сомнений?**

— Идеология синтеза охватила уже не только сферу научного знания, но и культуру в целом, экономику, политику, коммуникации. Интеграционизм — символ этой идеологии, обнаруживающий себя в стремлении человечества к планетарному социокультурному единству. Но путь этот устлан не только розами, да и они к тому же с шипами. Опасность, исходящая от этого процесса, — утрата тысячелетиями складывающегося социокультурного разнообразия. Эта опасность свойственна всякому прогрессу, ибо прогресс в одном означает регресс в чем-то другом. И нужно знать и предвидеть его ход, определить допустимые пределы. И еще проблема: критерии творчества повышаются, а на горизонте уже маячит призрак общего кризиса человеческого интеллекта. Что в нем от самого интеллекта, а что от существующих способов добывания нового знания? — в этом тоже предстоит разобраться. Отсюда — один шаг до технологии улучшения человеческой «породы».

Проблемы, стоящие перед человечеством, все нарастают — и количеством, и сложностью. Поэтому важно, чтобы процесс интеллектуального объединения человечества шел с опережением.

**Беседовал Владимир ТРЕТЬЯКОВ.**

ДЗЕЛАВЫ МІНСК

## БАРОМЕТР ПАКАЗВАЕ «ЯСНА»

Высокую адзнаку атрымала беларуска-германскае супрацоўніцтва на рэспубліканскім метадычным семінары, арганізаваным Саюзам прадпрымальнікаў рэспублікі.

Паводле ацэнак беларускіх і нямецкіх экспертаў, пасля Расійскай Федэрацыі Германія стала другім замежным партнёрам нашай рэспублікі ў гандлёва-эканамічнай дзейнасці. Агульная сума прамых германскіх інвестыцый у беларускую эканоміку ў мінулым годзе склала 3,5 мільёна марак ФРГ.

Нягледзячы на шэраг стрымліваючых фактараў — няпэўнасць палітычнага іміджу рэспублікі, нестабільнасць макраэканамічнай сітуацыі і практычную адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу і іншыя, незразумелыя для еўрапейцаў «тонкасці беларускай эканомікі», — нямецкія бізнесмены выказваюць гатоўнасць да пашырэння і паглыблення супрацоўніцтва. Далейшае развіццё, у прыватнасці, атрымаюць практыка падрыхтоўкі кадраў у Германіі, супрацоўніцтва ў галіне абмену дзелавой і камерцыйнай інфармацыяй.

Па словах Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ФРГ у Беларусі Готфрыда Альбрэхта, у прадпрымальнікаў Заходняй Германіі больш разумення і цярплівасці ва ўзаемаадносінах з беларускімі партнёрамі, паколькі праблемы беларускага боку падобныя на тыя, што давялося пераадольваць заходнім немцам у сувязі з рэструктурызацыяй кіравання эканомікай усходнегерманскіх земляў.

Удзельнікі семінара — вядучыя спецыялісты Міністэрства замежных спраў Беларусі, міністэрстваў эканомікі і знешніх эканамічных сувязей, Гандлёва-прамысловай палаты, пасольства ФРГ, члены Беларуска-германскага савета, кіраўнікі і члены прадпрымальніцкіх саюзаў — ацэньваюць перспектывы супрацоўніцтва ў 1995 годзе дастаткова аптымістычна.

Падводзячы вынікі семінара, прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін заклікаў падмацаваць прадпрымальніцкай ініцыятывай напрацоўкі Беларуска-германскага савета эканамічнага супрацоўніцтва.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

